**УДК 821.131.3-1**
**ББК 81.2 Бел-923**
**В 18**

**Варанец В.І.**

**Рамізнік** / В.І. Варанец – Смаленск, 2008. – 88с.
ISBN 985-504-188-3

Зборнік Варанца В.І. "Рамізнік" даволі разнастайны па сваёй тэматыцы. Тут ёсць і вершы, і проза, і публіцыстычныя замалёўкі. Але ўсе гэтыя творы аб'ядноўвае адно – гумар. Аўтар у крыху іранічнай форме расказвае пра сябе і тыя падзеі, што непазбежна сустракаюць нас штодзённа.

**УДК 821.131.3-1**
**ББК 81.2 Бел-923**



**ISBN 985-504-188-3**

## Лёс беларуса

Я долар зялёны ўчора купіў,
І гэтым, сябры, ганаруся.
А сёння той долар узяў ды згубіў –
Такі ўжо лёс беларуса!

## Беларуская дзяўчына

Не чапай мяне за ногі,
Не трывож маіх грудзей.
Мае ногі – для дарогі.
Грудзі – дыхаць каб глыбей.

Не хапай за стан танюткі.
Пацалуеш – будзе крык!
Лепш ідзі да прастытуткі.
Я ж – дзяўчына-працаўнік!

## Родны пейзаж

Стракоча дождж. Смуродны лезе дым.
Я ля акна. Ляжу, гляджу у шыбу.
П'ю піва. Дзень здаецца неблагім.
Суседзі сварацца і смажаць рыбу.

П'яны ляжыць у лужыне адзін –
Сям'я чакае дзесьці свайго тату.
Дзяўчына цягне хлопца ў магазін,
А кавалеру хочацца дахаты…

Сабака цётку моцна укусіў.
Нябожчыку іграюць музыканты.
Вось бомж якісьці торбу ухапіў –
За ім чырвоныя ляцяць міліцыянты.

Ў садку дзяўчынкі зладзілі раддом
І да "загадчыцы" нясуць свае цукеркі…
Насупраць дуб з апіленым галлём
Абклеілі аб'явамі паперкі.

З піўнушкі шпарка крочаць мужыкі
За дрэва справіць каб сваю патрэбу.
У сметніку жыруюць пацукі.
І дзед жуе на лаўцы лусту хлеба.

Прыйшоў сынок па грошы у кіно
(сябры чаргу ўжо занялі у касе),
Ды грошы, сынку, скончыліс даўно,
А зарабіць – няма у таты часу.

Вось жонка кліча. Што ж, пайду пад'ем.
Зноў крупнік будзе – і няма уздыму.

Пытаеце, што ж сумна так жывем?
Ну што сказаць: Радзіма, брат, Радзіма!

## Жыццё

Сцены. Столь. Халаты. Крык.
Галава. Цягні. На свеце.
Грудзі. Ежа. Плач. Мужык.
Урачы. Жанчыны. Дзеці.

Ложак. Дом. Пялёнкі. Сон.
Сінякі. Вятранка. Бойкі.
Клас. Настаўнік. Двойка. Стогн.
Бацька. Рэмень. Плач. Насоўка.

Інстытут. Гарэлка. Гул.
Галава. Дзяўчыны. Кніга.
Семінар. Залік. Прагул.
Дэканат. Загад. Адліга.

Праца. Жонка. Рай. Шалаш.
Сварка, Хата. Грэбля. Боты.
Рыба. Дача. Лес. Гараж.
Агуркі. Салат. Кампоты.

Печань. Страўнік. Вага. Ціск.
Піва. Вільм. Канапа. Жарты.
Сын. Пакой. Дзяўчына. Віск.
Сябр. Бутэлька. Песня. Карты.

Крыж. Магіла. Кветкі. Жаль.
Людзі. Марш. Святар. Да Бога.
Стол. Гарэлка. Слёзы. Баль.
Цемра. Свет. І зноў дарога..!

## Старасць

Старэю, браце мой, старэю…
Стаміўся  піць ўжо шмат гарэлкі
І тварам падаць у талеркі,
Хаця ўсё гэта і умею.

Старэю, браце мой, старэю…
Радзей ўсё цягне да дзўчат,
Але яшчэ бываю рад,
Калі якая дасць надзею…

Старэю, браце мой, старэю…
Не ў рэстаран іду часцей,
А ў лазню – там мне весялей:
І адпачну, і папацею.

Старэю, браце мой, старэю…
Вось неяк грошы палюбіў,
А як без іх калісьці жыў,
Цяпер ніяк не разумею.

Старэю, браце мой, старэю…
Ды не хавайце да пары.
Цярпенне майце, спадары –
Калісьці зноў я здзіцянею.

## Паэт

Паэта кожны пакрыўдзіць можа.
Паэта можа набіць любы.
А ён і тварам жа непрыгожы,
Такі лагодны, такі слабы.

Паэта дзеўкі зусім не любяць,
Хоць секс паэту такі патрэбны.
А дзеўкі толькі хвастамі круцяць,
І гэтым трэплюць паэту нервы.

Паэт заўсёды сядзіць без грошай.
Абед паэта так небагаты.
Касцюм ён носіць за іншых горшы,
І вельмі рэдка ён мае хату.

Але як сядзе, напіша нешта..,
І ўжо ён недзе за гэтым светам.
Не трэба грошай І дзевак, зрэшты,
Бо што ёсць лепей, чым быць паэтам!

## Беларускі гаспадар

Ты – прыгожая!
Я – агідны.
Ты – актыўная!
Я – фрыгідны!
У цябе ёсць маёнтак у Ніцы!
У мяне – толькі што ў нагавіцах…
Але я вось такі як ёсць –
Гаспадар табе, а не госць!

## Падарунак для каханай

Я прынёс табе не пярсцёнак –
Гэта цацкі і глупствы адны!
Не прынёс  я ахапак рамонак,
Бо ўсё роўна засохнуць яны!
Не прынёс я і футра з норкі:
Моль паб'е – будзе грошай шкада!
І каньяк, дарагі і горкі,
Не прынёс, бо карысней вада!
Не прынёс я табе і канапу,
Бо яшчэ невядомы наш лёс...
Дай сваю мне, каханая, лапу –
Я нічога табе не прынёс!

## Танцы.

Быў цудоўны вечар, і ў клубе – танцы.
Я абняў Агату і давай скакаць.
Ды прыйшлі на танцы п'яныя засранцы,
Учынілі бойку. Эх, ядрона мацы!
Я сваю Агату пасадзіў на лаву.
Аднаго засранца хапнуў за каўнер.
Кулаком у дыхла засадзіў на славу,
Ён аж рот разявіў, гэткі кавалер.
А другому хлопцы надавалі ў зяпу.
Зяпа, нібы попа, стала распухаць...
Потым ў тую зяпу запіхалі кляпу –
Хай не лезе ў бойку. Вось, ядрона мацы!
Ды мая Агата іх пашкадавала.
Буську мне ўляпіла – і я іх прасціў.
Выпілі па чарцы, закусілі салам,
І ўсім стала добра – гэткі пазіціў!

## Беларускі мачо

Калі б не быў такі я сціплы,
Рукам адраз ж волю б даў:
Твой стан, такі для вока мілы,
Я б абдымаў і прыціскаў!

Калі б я быў крыху распусны,
Дык на калені б цябе ўзяў,
І тваю шыю, твае вусны
Я песціў бы і цалаваў!

Калі б я быў сапраўдны мачо,
Адкрыў табе б я свет уцех,
І на руках аднёс на дачу,
І паказаў, што значыць грэх…

Але я звыклы беларус,
І гэта мне нібы кляймо.
Таму сцялі на стол абрус –
Мы проста семак паямо…

## На бульбе
(апавяданне)

У дзверы нехта ціхенька пашкрабаўся, і я быў вымушаны спыніцца. Студэнты, адчуўшы нейкую змену ў лекцыі, з цікавасцю расплюшчылі вочы. Нарэшце дзверы адчыніліся, і на парог выплыла сакратарка нашага дэканата.

- Мадэст Пятровіч,- заспявала яна сваім ледзь чутным галаском, - да дэкана, калі ласка, зайдзіце сёння.

Сказала і знікла, нібы здань. Я павярнуўся да аўдыторыі: большасць з прысутных глядзела на мяне са спачуваннем...

Пасля лекцыі я пайшоў у дэканат. У кабінеце сядзеў сам дэкан, які вельмі падазрона ўзрадаваўся майму візіту.

- Мадэст Пятровіч! Радасць якая, што вы завіталі да нас. Сядайце, калі ласка. Ну як жыццё, даражэнькі?

Я сціпла падзякаваў за клопат.

- Мадэст Пятровіч, у панядзелак вы з групай студэнтаў едзеце ў калгас на бульбу. Два тыдні на свежым паветры, вясковая ежа, лёгкі амурчык з мясцовым кантынгентам... Як я вам зайздрошчу. Рыхтуйцеся.

І ён, хуценька паціснуўшы руку, выціснуў мяне з кабінета.

... Раніцай мы, апошні ратунак калгасаў, стаялі ў фае універсітэта, хвалячыся адзін аднаму гумавымі ботамі і харчовымі прыпасамі. Дарослых было сямёра: тры выкладчыкі і чатыры лабаранткі. Усе з розных кафедр. Старэйшым з нас па ўзросту з’яўляўся Фядот Міхалыч – прадстаўнік кафедры фізічнага выхавання. Ён заклапочана падыходзіў да кожнага і строга пытаўся:

- З сабой узялі..? Там можа не быць.

Усе моўчкі ківалі галавой. Лабаранткі былі нічога сабе. Маладзенькія і даволі прывабныя. Але канчаткова

добра разгледзець іх я не паспеў, бо пратрубіў сігнал ад'езду і я пагнаў свой атрад у аўтобус.

Калгас сустрэў нас у асобе няголенага дзядзькі са смярдзючай цыгаркай у роце. Адрэкамендаваўшыся загадчыкам участка, на якім нам прыдзецца працаваць, Сымонік (так ён назваў сябе, але было гэта прозвішча ці імя, ніхто так і не зразумеў) правёў кароткую тлумачальную бяседу:

- Студэнты жыць будуць у старой школе, настаўнікі – па хатах. Харчавацца – у клубе, там і кухня ёсць. Што запрацуеце, на тое і з'ясцё. Як ўсё выкапаеце, так і паедзеце дахаты. Зразумелі?

Мы зразумелі і пачалі размяшчацца. Будынак старой школы служыў прытулкам для многіх, відаць, пакаленняў капачоў. На даўно не фарбаваных сценах змяшчалася разнастайная інфармацыя пра каханне, сэнс жыцця і некаторыя элементы інтымна-пачуццёвага самавыказвання... Апошнім мазком невядомых мастакоў стала выява аголенай жанчыны з надпісам ля ног: " Мне б такую!". Я загадаў студэнтам займаць месцы на ложках у былым 7 класе, абцяжарыў камандзіра студатрада графікам дзяжурстваў, прыбіраннем у пакоі, а сам пайшоў у разведку па вёсцы. Справа ішла да вечара, але адзіная вуліца населенага пункта была на дзіва пустой. Нават сабакі не брахалі. Гэта мяне насцярожыла: што за вёска без сабакі? Як раптам недзе далей пачулася музыка. І я пайшоў насустрач невядомаму.

На лавачцы сядзелі пяцёра хлопцаў-мужчын прыкладна 20-30-гадовага ўзросту. Побач іграў транзістар "Гарызонт", ля ног стаяў трохлітровы слоік з вадкасцю, ляжалі парэзаны агурок і кавалак хлеба. На маё з'яўленне хлопцы практычна не адрэагавалі.

- Прывітанне,- пайшоў у атаку я сам. – Я выкладчык універсітэта, прывёз да вас студэнтаў капаць бульбу. Давайце знаёміцца. Мадэст.

У вачах насельніцтва прамільгнула нейкая зацікаўленасць.

- Што, і дзеўкі ёсць? – адгукнуўся адзін з іх, такі вусаты дзяцюк.

- Ёсць,- пацвердзіў я.

- Прыгожыя?

- Розныя, - досыць неканкрэтна адказаў я і ўжо строгім голасам дадаў: – Але знаёміцца, мужыкі, без гвалту. Дамовіліся?

Мужыкі кіўнулі галовамі. Вусаты наліў са слоіка поўную шклянку і працягнуў мне. Піць было страшна, але і адмаўляцца нельга – аўтарытэт згублю! Я заплюшчыў вочы і кульнуў усю шклянку. Буракоўка! Вантробы раптоўна скруціліся, нешта піснула ў страўніку, але назад не вярнулася. Буду жыць.

- Малайцом! – адобрыў вусаты і падаў руку. – Міцяй! Праз хвіліну я ведаў ужо ўсіх.

Вяртаючыся да школы, убачыў густы слуп чорнага дыму. Не інакш, як будынак падпалілі…

Гарэла не школа. За метраў восемсот ад яе, каля самага ляску, вар'яцела вялікае вогнішча, побач з якім мітусіліся тры студэнты і адна студэнтка. Падышоўшы бліжэй, я ўбачыў, што яны смажаць курыцу. А вось дровамі для кастра паслужылі старыя трактарныя шыны. Чатыры разумнікі на доўгім кіі трымалі беднае кураня над ядавіта-чорным дымам, ад якога і птушка набыла прыкладна такі ж колер.

- Вы што, прыдуркі? – лепшага слова я на той час не змог адшукаць. – Хто ж на гуме гатуе? І, дарэчы, адкуль курыца?

Мурзатыя кулінары апусцілі вочы. Праз момант адзін з іх прамямліў:

- Хадзіла тут нічыйная...

Ну і што заставалася рабіць? Загадаў хуценька заліць хоць чым-небудзь вогнішча і ісці ў школу. А сам, узяўшы пад паху ахвяру студэнцкага голаду, пакрочыў у лес. На палянцы, варавата азірнуўшыся, сашкрабаў з кумпячка чарнату і паспрабаваў адкусіць кавалачак. Курыца была больш чым гумавая – драўляная. І я яе закапаў…

Аднекуль з’явіліся на вуліцы нашы лабаранткі. Яны весела нешта (або некага?) абмяркоўвалі, кіруючыся да рэчкі за школай. Я вырашыў крыху бліжэй пазнаёміцца з імі. Але тут на маім шляху з’явіўся Фядот Міхалыч, які з ходу прапанаваў правесці агульны сход кіраўніцтва атрадамі. Дзяўчатам прыйшлося вяртацца назад. Сабраліся ў хаце, дзе кватараваў наш аксакал. Адразу было бачна, што з гаспадыняй ён поўнасцю паразумеўся. Яшчэ малажавая кабета ўвішна круцілася каля пліты, не-не ды і кідаючы нейкія падазрона масляністыя позіркі на Фядота Міхалыча. Ды той і сам адчуваў сябе па-свойску. Падышоў да гаспадыні, прыабняў яе за магутны стан і небывала пяшчотным голасам запытаў:

- Кацярынка, а ці будзе ў нас што на зуб пакласці?

Нашы лабаранткі чамусьці адразу пачырванелі. Кацярынка ж, наадварот, кінулася ў камору і хуценька вярнулася з кавалачкам сала і парай саленых агуркоў. Праз хвіліну ўсе ўжо сядзелі за накрытым сталом, запрасілі сесці і Кацярынку. Кожны выцягнуў свае прыпасы. Неўзабаве перад намі ўзвышаліся дзве бутэлькі гарэлкі, адна каньяку, адна самагону і тры віна. Мне зрабілася страшна. Тамадой, зразумела, стаў Міхалыч.

- Піць трэба па нарастаючай, - важна заўважыў ён і адкаркаваў каньяк. Дзяўчаты тут жа запішчалі:

- Нам віна! Мы не п’ем..!

- І правільна, што не п’яце, - пагадзіўся Міхалыч. – Але каб не зняважыць гаспадара каньяка, трэба крышачку пакаштаваць. І ён разліў бутэльку разам на ўсіх. Астатнія маўчалі, канчаткова заблытаныя паняццем па нарастаючай.

- А зараз п’ем за знаёмства. Кожны называе імя свае і выпівае. І так па кругу.

Аказалася, што сярод нас дзве Юлі, адна Марта, Кацярынка, Міхалыч, Макар і Мадэст. Каб не блытацца з Юлямі, светленькую вырашылі называць урачыста Юліяна. Калі выпілі гарэлку і самагон, з’явілася непераадольнае жаданне заспяваць. Тут меркаванні разышліся. Дзяўчаты і Макар былі прыкладна аднаго пакалення і прагнулі Земфіры. Я больш схіляўся да “Машыны часу”, Міхалыч і Кацярынка прапанавалі Абадзінскага. Пасля спрэчкі пагадзіліся на традыцыйна застольную “Нясе Галя воду”. Адспяваўшы, адправілі ў атрад Макара, каб паглядзеў, ці там парадак, і прыцягнуў гітару. І вось ужо Макар ляніва перабірае струны гітары, лежачы на каленях у Юліяны, Міхалыч гучным шэптам прапаноўвае Кацярынцы паказаць Вялікую Мядзведзіцу, а я моўчкі гляджу ў акно і з сумам думаю, што ўжо занадта стары для гэтых дзяўчатак. Тым часам Міхалыч, спыніўшыся на паўслове, па-багатырску захроп на ложку. Кацярынка клапатліва прыкрыла яго нейкай радзюжкай. Цяпер ужо Макар стаў угаворваць Юліяну паглядзець усё тую ж пакутную Вялікую Мядзведзіцу. Я вырашыў калдыбаць да сябе ў хату. Але ў гэты момант устала з крэсла Марта.

- Мадэст Пятровіч, а ў Вас ёсць фотаапарат?

Дзіўнае пытанне, я ж яго паўдня на шыі цягаў.

- Так, ёсць.

- А давайце сходзім і возьмем. Пафатаграфуемся.

- Дык я і сам схажу. Нашто табе ногі біць?- здзівіўся я. Марта
не менш здзіўлена ўскінула бровы, але прамаўчала і, апярэдзіўшы мяне, выйшла з хаты.

Непрыкметна сцямнела. На чыстым небе засмяяўся жаўтазубай усмешкай месяц. А маленькія зорачкі чамусьці ўзгадалі мне службу ў арміі. Во дзе было зорачак! Я адчуў, што за свае жанатыя гады зусім забыўся, пра што гаворацць з маладымі дзяўчатамі. І што з імі робяць, дарэчы? А вось і дом. Мы ціхенька прайшлі з Мартай у мой пакойчык. Дзесьці далёка чуўся здаровы хроп гаспадара. Марта села на ложак, бо крэсла ў мяне не было. Я сеў побач. Маўчым.

- І што?- капрызна запытала дзяўчына. У мяне адразу нешта ў галаве перамкнула, і я, нечакана для самога сябе, загаласіў:

- “Ноч. Халодная зямлянка. Перастрэлка. Цішыня.”

- Ты што, дурань? – зацікаўлена запытала Марта.

- Не! – з упэненасцю супакоіў яе я.

- А-а-а, - працягнула яна, - Ты хочаш мяне спакусіць такім чынам?

- Навошта? – ужо здзівіўся я.

- Стары дзед! – канстатавала Марта і выскачыла з пакойчыка. Я хацеў было праводзіць яе, але ложак быў такі мяккі, а час такі позні, што, перадумаўшы, заваліўся спаць.

Раніцай мяне падняў Міхалыч.

- Ну што? – з нейкай надзеяй запытаў ён.

- Што што? – перапытаў я.

- З Мартай што? – стары ажно аблізнуўся ад нецярпення.

- Не ведаю, - сумленна адказаў я. – Я спаць лёг, а яна ж да вас пайшла.

- Дурань! – упэўнена заявіў Міхалыч і, канчаткова страціўшы да мяне інтарэс, выйшаў з хаты.

Калі пасля снедання мы пайшлі са студэнтамі ў поле, трактара з бульбакапалкай яшчэ не было. Значыць, трэба чакаць. Студэнты расцягнуліся па барознах. Хто кідаўся бульбінкамі, хто цалаваўся, некалькі чалавек зацягнулі адвечную тужлівую “Перапёлачку”. Я залёг у густую мураву і вырашыў падумаць пра ўчарашняе. Але падумаць не ўдалося: недзе зароў трактар. Я падняўся і ўбачыў, што трактар з капалкай неяк дзіўна да нас рухаецца. Ён як бы выгорвае бульбу квадрацікамі. Хаця, можа, гэта такая новая тэхналогія? Я рушыў да трактара, каб пацвердзіць свае меркаванні. Як раптам трактар заглох. Я адкрыў дзверку і… на мяне ўпаў маладзенькі трактарыст. Ад яго за вярсту несла самагонам. І ён спаў. Разам са студэнтамі мы перанеслі небараку ў цянёк, дзе той працягваў салодка сапсці. А што рабіць з бульбай? І я даў кліч:

- Хто на трактары ўмее..?

- Умее што? Ці ўмее з кім? – пачуліся дасціпныя заўвагі самадзейных вастраслоўаў.

- Умее бульбу выгорваць, – строга ўдакладніў я. Тут жа адгукнуўся высокі цыбаты хлапец з вельмі дзіўным для нашых мясцін прозвішчам Кац. Кац прафесійна завёў трактар, уключыў капалку, і вось ужо белыя бульбінкі дажджом сыпанулі на праход. А следам пацягнуліся і капачы…

Да абеду мы лёгка выканалі дзённую норму. А тут і наш трактарыст прачнуўся. Ён здзіўлена агледзеў спусцелае поле, свой трактар, новага трактарыста. Потым падышоў да Каца, працягнуў таму руку і вымавіў:

- Паважаю. З мяне ўвечары літр. І, ускочыўшы ў кабіну, некуды хуценька з’ехаў. За ўдарную працу я абвясціў, што ўвечары будзе ў клубе-сталоўцы дыскатэка.

Усе тройчы крыкнулі “ўра”, і мы пайшлі на абед. Хутка падцягнуліся і астатнія атрады. Навіна пра вячэрнюю дыскатэку не вельмі ўсцешыла Фядота Міхалыча, бо існавала, на яго думку, пагроза мясцовай інтэрвенцыі. А вось дзяўчатам гэта спадабалася. Яны адразу падляцелі да мяне і запыталіся:

- Мадэст Пятровіч, а для нас будзе асобная дыскатэка, ці мы разам са студэнтамі?

Я важна нахмурыў лоб, адчуваючы, як набываю сярод калег аўтарытэт і непазбежнае з гэтым лідарства.

- Гэтае пытанне прапрацоўваецца. А пакуль прапаноўваю абмеркаваць маю новую ініцыятыву. Пасля абеду дзяўчаты наразаюць кавалачкамі мяса, Міхалыч замочвае яго ў марынадзе і нарыхтоўвае дровы. А мы з Міронам ідзем у магазін па эліксір шчасця. І праз дзве гадзіны крочым на шашлык. Тут, за два кіламетры ад вёскі, кажуць, нядрэннае азярко ёсць. Што скажаце?

Другі раз за дзень я пачуў радаснае “ўра”. І вось мы на прыродзе. Возера сапраўды было прыгожае, нават гарлачыкі плавалі на сярэдзіне. Міхалыч з Юляй пачалі раскладаць вогнішча, Мірон з Юліянай нанізвалі шашлык на галінкі вішні, Марце давялося накрываць стол, а я, як кіраўнік канцэсіі, прыдзірліва назіраў за ўсёй падрыхтоўкай. Першай не вытрымала Марта. Яна зірнула на мяне і з’едліва запытала:

- А ці можна яснавяльможнага пана Мадэста папрасіць адкрыць бляшаначку кансерваў?

Я моўчкі праглынуў кпіны і заняўся працай. І вось мы ўжо сядзім на беражку, п’ем нейкі мярзотны партвейн мясцовага разліву і ямо духмяны шашлык. Баль распачаўся. Наеўшыся, усе плаўна ўвайшлі ў стан душэўнай нірваны, а навокал запанавала ідылія яднання чалавека з прыродай. Неўзабаве Мірон традыцыйна ўжо ляжаў галавой на каленях Юліяны і ляніва перабіраў

струны, Міхалыч, не менш традыцыйна, пахропваў, зморaны яшчэ цёплымі вераснёўскімі промнямі. Юля старанна выбірала з яго галавы нейкія саломінкі. Марта падазрона маўчала. Я ўстаў і падышоў да возера. Цікава, ці яшчэ цёплая? Сеў на кукішкі і пацягнуў далонь да вады. Не такая ўжо і халодная. І толькі паспеў так падумаць, як адчуў раптоўны штуршок у плечы і, не ўтрымаўшыся, плюхнуўся з галавой у возера. Вада аказалася халаднейшая, чым падалося папярэдне. Ля берага было неглыбока, дзесьці па калена, але мне і гэтага хапіла, каб выглядаць, як мокрая курыца.

- Святочнае хрышчэнне вялікага вершамана і працалюба Мадэста сына Пятрова адбылося! – пачуўся ўрачысты голос Марты, і ўсе дружна засмяяліся. Нават Міхалыч прачнуўся.

- Дурніца ты! – не знайшоўшы сказаць што разумнейшае, я пабег дахаты пераапранацца. Злосць пачала перапаўняць маю душу, і вось ужо я адчуў, што закіпаю. Пар трэба было выпусціць. У сухой вопратцы я выйшаў на двор і ўбачыў горбу непасечаных бярозавых калодак і каля іх сякеру. Вось справа для сапраўднага мужыка! І я пачаў сячы дровы. Хутка ў руках з'явілася стома, але на сэрцы неяк палягчэла. Усё ж якая карысць ад фізічнай працы..!

- Ой, глядзіце! –агідна знаёмы голас прымусіў мяне здрыгануцца. - Два дні як з дому, а ўжо стрываць не можа, сякерай лечыцца. Ну проста Чэлентана!

Не выпускаючы з рук сякеру, я грозна рушыў на Марту. Але тую, відаць, не так лёгка было спалохаць. Яна адступіла на крок ад веснічак і дурасліва закрычала:

- Людзі! Маньяк-выкладчык выйшаў на паляванне! Ратуйцеся!

Я плюнуў і пайшоў у хату. Што з яе, дзікай, возьмеш.

Калі сонца павярнула на захад, нехта пастукаў у шыбу. А праз імгненне пакой запоўніўся студэнтамі.

- Мадэст Пятровіч, дык будзе дыскатэка ці не? – запішчалі дзяўчаты.

- Канешне будзе! – бадзёра запэўніў іх я. – Хто, для пачатку, будзе дыск-жакеем?

- У сэнсе, ды-джэем? – перапыталі студэнты. – Тады Серж.

Наперад выступіў нейкі дахляк, наскрозь прадзіраўлены кольцамі, шпількамі і булаўкамі.

- Дзе апаратура? – важна запытаў ён. – Дыскі і свае маем.

Я павёў іх па апаратуру. Яе пад асабістую адказнасць мне пакінуў Сымонік, якога, дарэчы, мы так больш і не бачылі. Дзятва нешта шчабятала, а я, захоўваючы маўчанне, вёў іх да запаветнага дыскаклуба-сталоўкі. Адкрыўшы камору і ўключыўшы святло, урачыста паказаў прысутным нашу апаратуру. Яна складалася з двухкасетнага магнітафона “Pavasonic”, старога прайгравальніка для пласцінак “Аккорд” і дзвюх не менш старых калонак з узмацняльнікам. Ад уражання Серж ажно прысеў.

- Ну вось, - адзначыў я, - і рыхтуйцеся, а ў 20.00 пачынайце сваю тусоўку (люблю часам уклініць моднае слаўцо). Я пазней зайду.

Каля хаты мяне ўжо чакалі старыя знаёмыя – вусаты Міцяй і яго брыгада. Мы прывіталіся і зайшлі ў хату. Міцяй выцягнуў з кішэні бутэльку са знаёмай мне па колеру атрутай.

- Ну, давай па маленькай, - ён выцягнуў з горлышка корак, і неверагодны смурод разнёсся па пакоі. Затым пераліў самагон у вялізны кубак, што стаяў ля вядра з вадой, і працягнуў мне:

- Куляй!

Мяне зноў аж перадзёрнула, але думка, што пакутую не за сябе, а за бяспеку ўсяго атрада, крыху супакоіла. Я прыгубіў атруты і хуценька перадаў кубак наступнаму. Хлопцы ўмомант справіліся з напоем.

- А што,- запытаў Міцяй, - кажуць, танцы сёння?

- Так, запрашаем. Толькі без мардабою, добра? – папрасіў я.

- Да ўсё будзе хіп-хоп! – запэўнілі мяне госці нейкім замежным слэнгам.

Калі яны адышлі, я прылёг на ложак і стомлена заплюшчыў вочы. Хацелася спакою.

- Во, глядзіце, я кручуся, як вавёрка, а ён спіць! – літаральна праз хвіліну пачуў я абураны голас Міхалыча. – Ды і пілі тут, разумееш, без мяне!

Я сеў, з безнадзейнай тугой паглядзеўшы на подушку.

- А што здарылася, Міхалыч?

- Здарылася? А ці ведаеш ты, што сёння дыскатэка? А дзе графік дзяжурства выкладчыкаў? А дзе самі выкладчыкі? А дзе план вечара адпачынку для выкладчыкаў? Мне аднаму ўсё гэта цягнуць?

Я дастаў з сумкі сшытак, ручку і пачаў пісаць, каментуючы ўголас:

- За дыскатэку адказвае студэнт Серж, які зараз і ладзіць тэхніку. Танцы будуць з 20.00 да 22.00. З 20.00 да 21.00 дзяжурыць Мірон, з 21.00 да 22.00 дзяжурыць Мадэст. У 22.30 у памяшканні дзяўчат святочная вячэра, прысвечаная першым працоўным подзвігам. Фінансавым і камерцыйным дырэктарам абвяшчаецца Марта. Шэф-поварам – Юліяна. Культмасавая работа давяраецца Юлі. Агульнае кіраўніцтва ўскладаецца на Міхалыча. Кропка.

Я зірнуў на Міхалыча. Той з неверагодна сур’ёзным выглядам ківаў галавой, і твар яго паволі прасвятляўся. Нарэшце ён усміхнуўся і працягнуў мне руку.

- Ну вось можам, калі хочам! Так, давай мне загад, падпішу і азнаёмлю астатніх. І Міхалыч борздзенька выскачыў з хаты.

Студэнты зрабілі амаль неверагоднае: з дабітай апаратуры гучала музыка досыць прыстойна, саракаватовыя лямпачкі, пафарбаваныя ў розныя колеры гуашшу, мільгацелі на сценах, а над галавой круціўся нейкі шар, аблеплены кулінарнай фальгой. Палову танцораў складалі госці навакольных вёсак. Усім было весела, у гарачым паветры выразна адчуваўся пах усё той жа атруты. Серж зухавата сыпаў рознымі дасціпнымі і не вельмі жартамі, але ўсе задаволена рагаталі. Убачыўшы мяне, Серж радасна заверашчаў у мікрафон:

- А вось і зачынальнік вясковага дыскатэчнага руху, суровы і вечна малады Мадэст Пятровіч. Вітаем! – Уся зала шчасліва зараўла і запляскала ў далоні. – А зараз гучыць павольная эратычная кампазіцыя для нашага дарагога выкладчыка “Sexy eyes”, што ў перакладзе на рускую мову азначае “Половые глаза”.

Моладзь тут жа прыліпла адзін да аднаго і пачала хістацца на месцы з боку ў бок. А да мяне нечакана падскочыла нейкае маладзенькае дзяўчо і з мілай усмешкай прамовіла:

- А можна Вас запрасіць на танец?

Я нават разгубіўся і не паспеў нічога адказаць, але мой адказ і не быў патрэбны. Дзяўчына шчыльненька прыліпла да мяне і стала расхістваць з усё большай амплітудай. Я зразумеў, што ўжо танцую.

- А што Вы маўчыце і не забаўляеце даму? – запытала мая партнёрша.

- А я сароменюся дзяўчат…

Дзяўчына весела засмяялася.

- Па Вас не скажаш. А мяне, між іншым, Алёнай завуць. А Вас Мадэстам Пятровічам. Вы ў нас заняткі вялі ў тым годзе. Але, пэўна, мяне і не памятаеце.

- Памятаю, - не задумваючыся, схлусіў я.

- Не, Вы памятаеце Кацьку Бовіну, бо яна з твара на мяне крыху падобная, але ў яе чацвёрты памер бюста, і ўсе выкладчыкі толькі туды і глядзяць, а на твар зрэдку для прыстойнасці.

“Божухны! – падумалася мне. – Няўжо і я толькі туды і глядзеў? Бо той бюст я добра памятаю. Які жах!”.

- А Вы зоркі ведаеце? – працягвала апыт Алёна.

- Так, збольшага.

- А я зусім не ведаю, нават Вялікую Мядзведзіцу. Сорамна, праўда? А Вы не маглі б мне іх паказаць. Вось сёння будзе зорнае неба...

Траскатня Алёны не спынялася ні на хвіліну, і ад гэтага думкі неяк рассейваліся па ўсёй галаве. Дзякуй богу, скончылася музыка.

- А Вы мяне запросіце? – з надзеяй запытала Алёна.

- Не ведаю, як сёння, бо торба спраў, але ў наступны раз абавязкова, - зноў падмануў я.

- А зоркі?

- І зоркі…

З палёгкай уздыхнуўшы, я накіраваўся да дзвярэй.

- А дровы секчы нам надакучыла, мы маладзенькага захацелі, мы вершыкі чыталі, - загучаў той жа знаёмы з’едлівы голас. Ля акна стаялі Марта з Юляй і іранічна пазіралі на мяне. Я абурыўся.

- А што вы тут робіце? А вячэра? А культурная праграма?

- Усё гатова. Нам толькі захацелася паглядзець, як забаўляюцца дарослыя дзядзечкі..!

Як і абяцалі мясцовыя аўтарытэты, дыскатэка паспяхова закончылася без гвалту і мардабою. Парачкі

разышліся па вёсцы лічыць зоркі, няўдалыя заваліліся спаць.

Я павольна пайшоў па цёмнай вуліцы, удыхаючы каларытныя пахі вёскі. У галаве было чыста, думкі напроч адсутнічалі. Але ідылія раптоўна скончылася разам са з'яўленнем на дарозе велізарнага сабакі, які паволі набліжаўся да мяне, разінуўшы страшэнную пашчу. Ад такога не ўцячэш, такога не прагоніш. І што рабіць? Сажрэ і не задушыцца. І тут я ўспомніў, што, каб напалохаць сабаку, трэба стаць на "чатыры кропкі" і забрахаць на яго. Што я і зрабіў. Мой гучны брэх літаральна ўзарваў вёску. Яго тут жа падхапілі ўсе навакольныя сабакі. Ну а мой вораг неяк здзіўлена зірнуў на мяне, махнуў хвастом і... адышоў. Перамога!

- Дзе ж ты так набраўся, даражэнькі? – пачуў я нечы голас. Усё так жа стоячы на чацвярэньках, павярнуў галаву і ўбачыў, як за маёй спіной сабраўся досыць прыстойны натоўп людзей. Я тут жа запляскаў далонямі па зямле.

- Кашалёк згубіў, вось і шукаю.

- А чаго равеш? – запытаўся той жа цікаўны.

- З гора! – упэўнена схлусіў я, ціхенька выцягнуў кашалёк з кішэня і ўрачыста абвясціў: - Во, знайшоў.

Пакручваючы галовамі і падазрона ўсміхаючыся, народ пачаў разыходзіцца. Настрой мой сапсаваўся канчаткова.

...У дзяўчат было спакойна і ўтульна. Ціхенька іграла прыемная музыка, на стале ляжала нейкая смаката, народ выпіваў, закусваў і гаманіў. Маё з'яўленне выклікала вір эмоцый.

- Віват вялікаму арганізатару дыскатэк! – зароў Міхалыч.

- Віват сексуальнаму маньяку! – падтрымала яго Марта. Усе зарагаталі і дружна выпілі за мяне. Я з ахвотай

далучыўся да слоў Міхалыча, абсалютна ігнаруючы злобнае дзяўчо па імені Марта. Больш таго, я пакрысе пачаў заляцацца да Юлі, клапатліва падкладаючы ёй у талерку розныя закускі і забаўляючы крыху фрывольнымі анекдотамі. Гэтая справа, відаць, мне спадабалася, бо ў хуткім часе я дазволіў сабе нават абняць Юлю за плечы і прашапацець ёй у вуха парачку камплементаў(прынамсі, мне падалося, што гэта былі менавіта кампліменты). І тут нешта гучна бразнула. Я павярнуў галаву і ўбачыў, што Марты за сталом ужо няма. У пакоі павісла цішыня. Усе чамусьці глядзелі на мяне. Куды мне трэба было глядзець, я не ведаў.

- Даганяй, - нарэшце вымавіў Міхалыч, гледзячы проста ў вочы.

- А чаму я? – нічога яшчэ не разумеючы, запытаўся я. – І што здарылася?

- Некаторыя, здавалася б, разумныя мужыкі ў жыцці дурні дурнямі, - зазначыла Юліяна.

Я цяжка ўздыхнуў і выйшаў з хаты. Зорнае неба здавалася халодным і чужым. Навокал панавала прыгнятаючая цішыня, і мне тужліва захацелася ў горад. Вочы паступова прызвычаіліся да цемры, і я разгледзеў каля дрывотні нечыю постаць. Несумненна, гэта была Марта. Нізка павесіўшы галаву, я падышоў да яе і паклаў руку на плячо. Яна было мяккім і халодным. “Цікава, дзе яна ўзяла хустку? Ніколі ж не насіла”, - падумалася мне. Счакаўшы хвіліну і бачачы, што адпору пакуль няма, паклаў і другую руку. А затым павольна павярнуў дзяўчыну тварам да сябе. І жахнуўся. На ўвесь велізарны рот мне ўсміхаўся гарбуз. Гэта было агароднае пудзіла!

- Ты праўда дурны, ці прыкідваешся? – пачуў я голас Марты. Яна стаяла за маёй спіной і назірала за маімі заляцаннямі да пудзіла.

- Пэўна, дурны, - хуценька пагадзіўся я і, адпусціўшы гарбуз, узяў за руку Марту. – А ты чаго збегла?

- А ты чаго выскачыў? – па-адэску пытаннем на пытанне адказала яна.

- Я за табой.

- А як жа Юля?

- А што Юля? Так, сядзелі, жартавалі…

- Не, ты закончаны балван! – вынесла свой прыгавор Марта і моцна прыпала сваімі вуснамі да маіх...

Да самай раніцы мы сядзела з Мартай на беразу ракі і цалаваліся, цалаваліся, цалаваліся. Я ажно стаміўся. Не, я спрабаваў крыху распусціць рукі, але дзяўчына пільна кантралявала кожны мой рух, не дазваляючы лішняга. Хаця мне яно было і не лішняе… Каля хаты, дзе жылі дзяўчаты, мы пяшчотна развіталіся, дамовіўшыся праводзіць сённяшняе сонейка. Буськнуўшыся, разышліся па хатах.

І зноў поле, і зноў бульба. Пасля дыскатэкі студэнты былі падобны да восеньскіх мух: няспынна пазяхалі, павольна поўзаючы па барознах. У многіх дзяўчат былі падазрона апухлыя вусны. Мяркую, што вечар у іх удаўся. А вось што мне рабіць з нечаканым каханнем, у якім уначы прызналася Марта? Відавочна, што вопыту ў такіх справах мне не хапала. Ды і сям’я ў мяне ёсць, дзесьці, думаю, жонка чакае… Ды і заводзіць раман –гэта ж колькі клопатаў розных: пазабюджэтныя грошы патрэбны, нейкая хата, паролі і яўкі для сустрэч, легенды для жонкі… Не, надта клопатным падаецца мне гэта каханне. Ды і малая яна яшчэ, рамантыка ў галаве адна. Трэба шукаць выйсце, бо за два тыдні, што нам давядзецца тут быць, такога можна накруціць…

Выйсце само прыйшло да мяне ў абед. У сталоўку-клуб-дыскабар зайшла паштарка і гучна закрычала:

- Хто тут Кузыкін?

Усе павярнуліся да мяне, і я быў вымушаны прызнацца:

- Я.

- Вам павестка з ваенкамата, - немаведама чаму зарагатала кабеціна, узяла з мяне подпіс і хуценька з’ехала. Я зірнуў на пакінуты лісток. Так і ёсць: ужо заўтра я павінен з’явіцца ў гарадскім ваенкамаце. У адваротнам выпадку пералік нейкіх артакулаў заканадаўства абяцаў заняцца мной ужо ў іншым месцы. Вось яно, маё збаўленне. Ніколі яшчэ армія так не не радавала мяне…

Я хуценька сабраў торбу, паціснуў усім рукі і падышоў да Марты.

- Мы яшчэ сустрэнемся? – сумна запытала яна.

- Абавязкова! – бадзёра запэўніў я. – Мы ж у адным інстытуце працуем. Куды ж нам дзецца?

- А апроч працы? – вочы Марты свяціліся надзеяй.

- Не ведаю, даражэнькая. Я ж сямейны… Там будзе бачна…

Я па-сяброўску чмокнуў дзяўчыну ў шчочку і на дзіва хуткім крокам пайшоў у войска.

## ***СТУДЭНЦКІЯ ГІСТОРЫІ.***

*Студэнцкі фальклор. Думаю, кожны цяперашні ці былы студэнт можа расказаць вам неверагодную колькасць самых розных студэнцкіх гісторый, анекдотаў, вершаў. Некаторыя з іх з “ барадой”, а некаторыя “ свежаспечаныя”. Тым не менш кожнае пакаленне студэнтаў расказвае гэтыя народныя творы выключна ў сваёй інтэрпрэтацыі, упрыгожваючы нейкімі новымі дапаўненнямі.*

*Прапанаваныя вам гісторыі былі расказаны студэнтамі Гродзенскага медыцынскага універсітэта, і кожны апавядальнік горача пераконваў мяне, што падзеі гэтыя адбываліся выключна ў ГДМУ і таму ёсць сведкі. Магчыма, хтосьці чуў напісаныя ніжэй гісторыі ў іншых ВНУ, таму даруйце за паўторы, але так хочацца верыць, што ўсё адбывалася менавіта ў нашай роднай навучальнай установе.*

*Ад аўтара.*

## Хто піцу заказваў?

Быў добры нядзельны палудзень. Студэнцкі інтэрнат павольна абуджаўся ад суботняй дыскатэкі і пад абуранае буркаценне прыбіральшчыцы скупа дзяліўся ўчарашнімі ўспамінамі…

Мікола яшчэ раз перавярнуўся з боку на бок, але, зразумеўшы, што канчаткова прачнуўся, з неахвотай расплюшчыў вочы. У пакоі было брудна, ды светла. У галаве ад чагосьці было чыста, але цёмна. Настрою не адчувалася. Гадзіннік паказваў чатырнаццатую гадзіну, намякаючы, што добра было б пачытаць на заўтра фармакалогію. У задуменнасці Мікола прайшоўся па пакоі, няспешна агледзеўся, узяў шклянку з вадой і выліў на галаву суседа, што яшчэ мірна соп на ложку. Сусед звар’яцела заверашчаў, але настрою гэта не прынесла. Адчувалася неабходнасць у нечым глабальным. Мікола моцна задумаўся.

… Тралейбус нумар тры павольна рухаўся па вуліцы Горкага, то і справа спыняючыся на светлафорах. Людзей у салоне было досыць багата, і купка гаманкіх хлопцаў і дзяўчат, што ўвайшла ў тралейбус, асаблівай радасці прысутным не прынесла. Моладзь жа, праціснуўшыся ў сярэдзіну салона, на хвіліну змоўкла. А праз момант высокі чарнявы хлопец схіліўся над кампостэрам і гучна прамовіў:

- Калі ласка, мне адну піцу з грыбамі.

Пасажыры ацанілі жарт хлопца, усе заўсміхаліся і нават некаторыя зарагаталі. Калі ж тралейбус спыніўся на прыпынку, ужо было не да смеху. Ля адчыненых дзвярэй раптоўна ўзнік, трымаючы нешта ў квадратнай плоскай каробцы, каржакаваты малады чалавек у белым поварскім каўпаку і ў фартуху і ветліва запытаў:

- Хто піцу з грыбамі заказваў?

Усе знямелі. Усе, акрамя чарнявага, які дастаў з кішэні грошы, аддаў іх “повару”, а сам з піцай вярнуўся да сяброў. Тралейбус рушыў далей. Тым часам адна з дзяўчат звярнулася да чарнявага хлопца:

- Слухай, Мікола, а чым запіць гэтую піцу?

- Бач, халера, зусім забыўся,- разгублена прамовіў Мікола і зноў накіраваўся да кампостэра. - Калі ласка, літровую колу.

У тралейбусе не было чуваць ні гуку. Пасажыры насцярожана чакалі прыпынку. Вось і ён. Дзверы расчыняюцца, і... ў дзвярным праёме паказваецца невысокая дзяўчына ў “поварскай” вопратцы з літровай бутэлькай колы. Нейкая жанчына нервова хіхікнула – і зноў цішыня. Далей карціна паўтарылася, як і на папярэднім прыпынку. Мікола расплаціўся, узяў колу і павярнуўся да сяброў.

- Ну што, можа, выйдзем і крыху перакусім на паветры?

Моладзь хуценька выбегла з тралейбуса. Народ у салоне ўсё яшчэ стаяў у здранцвенні. Затым павольна і нерашуча да кампостэра наблізіўся досыць сталага ўзросту мужчына і , вінавата азіраючыся па баках, ціхенькім голасам замармытаў:

- Піва бы, га?

А на прынынку весела рагаталі хлопцы і дзяўчаты, сярод якіх смешна выдзялялася парачка ў “поварскіх” уборах.

**Аналізы.**

Пачатак навучальнага дня быў досыць традыцыйным: заспаныя студэнты ледзьве цягнуліся па лекцыйнай аўдыторыі за свае сталы, лянiва вітаючыся адзін з адным, мітуслівая прыбіральшчыца блыталася ў нагах з швабрай, спознена дамываючы так і не адмытую ад бруду падлогу. Нарэшце ўсе расселіся і пачалі чакаць выкладчыка, каб потым спакойна заняцца сваімі справамі: спісваннем, дачытваннем, дамалёўваннем, дасынаннем... Але замест выкладчыка ў аўдыторыю нечакана зайшоў намеснік дэкана і гучна абвясціў досыць прыемную навіну: пасля першай пары ўсе павінны прайсці медагляд і здаць аналізы ў паліклініцы. Значыцца, заняткаў больш не будзе.

А дзесятай гадзіне раніцы ўнушальная калона першакурснікаў рушыла з галоўнага корпуса медыцынскага універсітэта ў напрамку да гарадской паліклінікі. Замыкала гэта шэсце невялікая купка хлопцаў, якія ўсім сваім выглядам паказвалі, што спяшацца ім няма куды. Распавядаючы анекдоты і рагочучы з іх, студэнты дайшлі да перакрыжавання вуліц Астроўскага і Горкага і спыніліся на светлафоры. І тут яны ўбачылі невялічкі павільёнчык з надпісам “ Піва”. Неяк адначасова ва ўсіх галавах мільгатнула адна і тая ж думка, і хлопцы рашуча збочылі з дарогі. На шчасце, у аднаго з іх была пустая паўтаралітровая пластыкавая пляшка з-пад мінеральнай вады, якую тут жа напоўнілі свежым півам. Сербануўшы па глытку, яны вырашылі пакінуць літар на зваротны шлях і пабеглі даганяць аднакурснікаў.

Чарга студэнтаў каля дзвярэй з надпісам “ Лабараторыя” рухалася досыць хутка. Маладзенькая

медсястра рухава прымала ў кожнага невялічкія шкляначкі з мачой і ставіла на столік. Падцягнуліся сюды і аматары піва. Зробленыя папярэдне глыткі настроілі іх на вясёлы лад, і , крышку параіўшыся, адзін з хлопцаў дастаў з сумкі бутэльку з літрам піва. Затым прыляпіў да бутэлькі паперку з прозвішчам і стаў у чаргу. Дайшоўшы да лабараторыі, ён з радасцю працягнуў бутэльку медсястры. Тая разгублена ўзняла вочы.

- Што гэта?

- Мая мача,- адказаў хлопец і горда дадаў.- Вельмі якасная!

- Але гэта зашмат,- нерашуча запярэчыла дзяўчына.

- Ну, калі зашмат, дык можна і зменшыць,- пагадзіўся студэнт. Ён адкруціў пробку і прагнымі глыткамі адпіў прыкладна палову. Медсястра глядзела на яго аслупянела, затым рэзка збялела, прыкрыла рот рукой і хуценька пабегла ў бок прыбіральні…

**Па крэйду**.

Кожны, хто вучыўся хоць крышачку ў ВНУ, адразу ж распазнаў бы ў гэтых хлопцах і дзяўчатах першакурснікаў другога тыдня навучання. Ім было цікава ўсё: доўгія калідоры, вялікія і прасторныя кабінеты, строгія выкладчыкі і яшчэ не зусім зразумелыя словы – дэкан, куратар, рэктар, семінар... Вось і зараз, зайшоўшы ўпершыню ў лекцыйную аўдыторыю нумар тры, студэнты доўга і з захапленнем круцілі галовамі, раз-пораз выдаючы прыглушаныя гукі захаплення. Але зайшоў выкладчык, і ўсе хуценька расселіся за сталы.

Выкладчык быў ужо досыць сталым чалавекам, калі не сказаць – вельмі досыць сталым. За час працы ва універсітэце ён ужо да ўсяго прывык і асабліва не захапляўся ні наваколлем, ні наіўнымі першакурснікамі, проста прафесійна робячы сваю справу. Так і зараз, прывітаўшыся, ён адразу ж абвясціў тэму лекцыі і пацягнуўся па крэйду. Але крэйды не было. Гэта таксама не здзівіла прафесара. Ён ускінуў галаву і, звяртаючыся да хлопца за апошнім сталом, папрасіў таго схадзіць у суседнюю аўдыторыю і пазычыць кавалачак крэйды. Студэнт хуценька выскачыў за дзверы. На калідоры ён хвілінку пастаяў, не ведаючы, куды пайсці, затым накіраваўся да лесвіцы, што вяла ўніз. Апусціўшыся на першы паверх, хлопец убачыў дзверы, за якімі чуўся нечый голас. Першакурснік ціхенька пастукаў і ўвайшоў у аўдыторыю. Перад ім стаяў вельмі сталы і крышачку на кагосьці падобны выкладчык.

- Прабачце, калі ласка, Вы не пазычыце кавалачак крэйды?- нясмела запытаў студэнт.

- Не,- адказаў прафесар,- самі толькі што паслалі чалавека па крэйду.

Хлопец ціхенька выйшаў з аўдыторыі і пайшоў да лесвіцы. Ён падняўся наверх і зайшоў у сваю трэцюю аўдыторыю. Дзесьці далёка каля дошкі чытаў лекцыю досыць сталы і ўжо вельмі знаёмы з выгляду прафесар.

- Прабачце, калі ласка,- загаварыў студэнт,- але ў суседняй аўдыторыі няма крэйды.

- Я ведаю,- адказаў прафесар.- Адтуль толькі што прыходзілі.

Увесь курс грымнуў дружным рогатам.

**Сапрапелі.**

Гэтага дня чакала ўся група, таму што ў Мікалая быў Дзень нараджэння. Здавалася, ну і што тут такога: у кожнай групе такіх Дзён аж браце ты мой! Ды не. Справа ў тым, што ў Міколы гэтае добрае свята прыпадала на кастрычнік месяц, калі было яшчэ цёпла, але ўжо не горача, калі можна ладзіць шашлыкі, заблукаць парачкай у лесе .., і таму вось ужо тры гады запар уся група выязджала святкаваць на дачу Міколавых бацькоў у жывапісныя мясціны на беразе возера. Так было і гэтым разам. Група сабрала якія-ніякія прыпасы, падарунак, пра ўсё астатняе паклапаціўся сам імяніннік, у тым ліку і пра ключы ад дачы. Праўда, бацька даў дазвол з адной умовай: зараз чысцяць возера і вывозяць мул са дна – сапрапелі. Таму дай шафёру якую капейку – хай адну машыну скіне на агарод – лепшага ўгнаення не прыдумаеш. Давялося згадзіцца.

Свята прайшло на ўра. Былі віншаванні, шашлыкі, танцы і пацалункі – усё, як і запланавана. Калі добра сцямнела і ўсе пачалі збірацца на цягнік, Мікола ўспомніў пра бацькаву просьбу. Адправіўшы наперад сяброў, ён хуценька выбег на грунтоўку перахапіць машыну. Хвілін праз пяць бліснулі фары грузавіка. Мікола замахаў рукамі. Машына спынілася, высунуўся вадзіцель.

- Чаго табе?

- Не скінеце адзін кузаў на дачу?- жалобна папрасіў хлопец і дастаў з кішэні грошы.- Заплачу.

- Што, усю?- здзіўлена перапытаў шафёр.

- Так, усю.

Вадзіцель тут жа збочыў з дарогі, выгрузіўся на агародзе і з'ехаў, а Мікола ва ўсе ногі кінуўся даганяць сяброў.

У панядзелак з раніцы група весела дзялілася ўспамінамі пра суботні адпачынак. Неўзабаве прайшоў і Мікола. Але выгляд у яго быў далёка не шчаслівы. А здарылася наступнае: там жа, каля дачы, асфальтавалі шашу на Гродна. Мікола, не пацікавіўшыся змесцівам кузава, перахапіў машыну з асфальтам. І вось пяць тон свежага дарожнага матэрыялу было вывалена на агарод. А раніцай у нядзелю Міколаў бацька паехаў на лецішча раскідаць па градках сапрапелі. Якое ж было яго здзіўленне, калі ён убачыў пасярод агарода вялізную горбу скамянелага асфальту…

Чатыры суботы запар студэнты разам з Міколам выязджалі на дачу дзяўбсці гэтыя агідныя "сапрапелі"...

## Аўстэрліц.

Займалася падрыхтоўчае аддзяленне беларускай мовай. Тэма была досыць знаёмай для ўсіх яшчэ са школкі – напісанне пераказу. Выкладчык які ўжо раз раскрываў увесь механізм напісання такога вось твора, а слухачы ФДП меланхалічнаківалі галовамі. Тэрмінова трэба было страсянуць гэтую санлівую і апатычную да ўсяго аўдыторыю. І выкладчык выкарыстаў традыцыйны і правераны на папярэдніх пакаленнях спосаб.

- А зараз, паважаныя,- пачаў настаўнік,- я прачытаю некалькі ляпсусаў з твораў вашых папярэднікаў, таму ўважліва слухаем і недапускаем такога ў сваіх пераказах.

У вачах прысутных тут жа з'явілася зацікаўленасць.

- Зачытаю радкі, - працягваў выкладчык, - з пераказа па рускай мове. Вучні пісалі па творы Л.М. Талстога "Вайна і мір". І вось адным "разумнікам" былі напісаны такія радкі: " Андрэй Балконскі ляжаў пад блакітным небам Аўстэрліца і займаўся самазадавальненнем...".

Група ўзарвалася ад рогату. Дзяўчаты, крыху пачырванеўшы, смяяліся ў далоні, хлопцы рагатылі ва ўсё горла. Выкладчык паблажліва пазіраў на вучняў. А калі смех паступова пачаў заціхаць, адзін са слухачоў, давячыся ўсё яшчэ рогатам, гучна вымавіў:

- Гэта ж трэба было слова такое выдумаць – Аўстэрліц!

Аўдыторыя грымнула зноў...

## Помста

Раніца. Стрэлкі гадзінніка хутка набліжаліся да васьмі гадзін. Рыта ляцецела што было моцы на тралейбусны прыпынак. Ну ніяк нельга было ёй другі раз запар спазніцца на занятќі па анатоміі. Выганяць, абавязкова выганяць! На шчасце, тут жа пад'ехаў тралейбус, і дзяўчына здолела ўціснуцца ў перапоўнены салон. А тут яшчэ і ззаду нехта падпіхнуў і з цяжкім сапам таксама ўпіхнуўся ў тралейбус. Дзверы зачыніліся, і машына рушыла далей. Рыта з палёгкай перавяла дых. Паспее! А той нехта, што стаяў за спінай, нечакана загаварыў старэчым жаночым голасам:

- Божухны, ну куды яны ўсе едуць? Спалі б лепей. Ці пеша ішлі. Маладыя яшчэ ездзіць. Пэўна, і талончыкі не прабілі. Не, ну што за моладзь, хто іх толькі выхоўвае?

І тут Рыта адчула моцны ўдар у плечы.

- А ты што навалілася на мяне, як кабыла якая! – пачуўся ўсё той жа злосны стары голас. – Адсунься, каму кажу!

Дзяўчына з апошніх сіл павярнулася бокам, каб даць старой хоць крышку прасторы. Але бабулька не ацаніла такой самаахвярнасці.

- Не, вы толькі паглядзіце,- працягвала яна сваю “песню”.- І гэта дзяўчына? Нафарбавалася, намазалася – брыдота адна! А апранулася – людзям на смех. Дзе спадніца твая? Нешта не бачу. Куды толькі іх маці глядзяць…

Бабка яшчэ доўга бурчэла, але Рыта, на здзіўленне прысутных, упарта маўчала. Толькі чырвань на шчаках і падрыгванне вуснаў выдавалі яе ўнутраны стан. Так цягнулася ажно чатыры прыпынкі. Каля Цэнтра занятасці вадзіцель спыніў тралейбус і, адчыняючы дзверы, гучна абвясціў:

- Падрыхтаваць талоны для праверкі. Тры, два, тры.

І тут адбылося неверагоднае. Нечакана нават для самой сябе, Рыта выхапіла з рук бабулькі талончык, скамячыла яго, кінула сабе ў рот і праглынула. Пасля чаго паказала свой талончык кантралёру і горда выйшла на вуліцу. Старая ад такой нахабнасці знямела. А да яе ўжо паварочваўся кантралёр…

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

***Усё гэта адбылося са мной на самой справе. Не выключаю, што і з вамі…***

### Гісторыя першая. Шакаладка.

Іду дахаты. Па дарозе ўспомніў, што жонка прасіла купіць цукру. Завітаў у краму, купіў таго цукру і, не ўтрымаўшыся, шакаладны батончык (ну вельмі ж іх люблю). Прыйшоў на прыпынак і чакаю аўтобуса. А ў галаве няспынна свярбіць: з'еш батончык, з'еш батончык… Ну і не вытрымаў. Хуценька разлупліваю яго і з асалодай адкусваю кавалак. О, вось яно, шчасце!

Недалёка ад мяне стаяць дзве сталыя кабеты. Ад убачанага яны нават перарвалі сваю няспынную гаворку. Пэўна, першы раз у жыцці назіраюць, як здаровы мужык грызе шакаладку. Нарэшце адна не вытрымлівае, плюе на асфальт і са злосцю вымаўляе:

- Глядзець не магу. Брыдота. Лепей бы п'яны пад плотам валяўся!

### Гісторыя другая. Танк.

Было гэта яшчэ пры маім студэнцтве. Тады каля помніка воінам-вызваліцелям Гродна (вядомы ўсім гарадзенцам танк на пастаменце) на Савецкай плошчы быў аўтобусны прыпынак. Сотні разоў я сядаў там на свой аўтобус, і хоць бы што. А тут няма транспарту і няма. Ад сумоты пачаў у тысячны раз перачытваць надпіс на помніку. "ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ ДРУГОГА І ТРЭЦЦЯГА БЕЛАРУСКІХ ФРАНТОЎ Г. ГРОДНА 16. 07. 1944". Усё як заўсёды. Як раптам адчуваю, што нешта зачапіла вока. Ну

не так штосьці ў надпісы. Перачытваю зноў – так і ёсць! ТРЭЦЦЯГА! Трэба ж адно Ц. Падумаў і тут жа засумняваўся: ну не дурні ж пісалі, можа, два і патрэбна? Ды і народу ж колькі праходзіць... Хаця дакладна памятаю, што адно.

Прыехаў дадому, паглядзеў па падручніку – адно. Усё роўна сумняваюся – помнік жа! Раніцай папытаў ва універсітэце ў выкладчыка, растлумачыўшы сітуацыю. Не, кажа, безумоўна адно Ц, але пераправерыць па слоўніку не пашкодзіць... І пабег правяраць. Вярнуўся ўзрадаваны. Там таксама пішацца адно Ц!

Канчаткова супакоіўшыся, выконваю свой грамадзянскі і прафесійны абавязак, паведамляючы ў мясцовую газету пра такую недарэчную памылку. А прыкладна праз тры тыдні атрымліваю з рэдакцыі адказ, што сігнал прыняты, а ліст перасланы ў гарвыканкам для далейшага рэагавання. Яшчэ прыз месяц з невялікім знаходжу ў паштовай скрынцы канверт з выканкама з падзякай за своечасовую заўвагу і паведамленне, што інфармацыя адпраўлена ў жылкамунгас. Лагічна было здагадацца, што праз пэўны тэрмін жылкамунгас адрапартаваў мне пра нараду з нагоды атрымання такога слушнага ліста, і вось прыкладна праз пяць месяцаў нарад, сходаў і абмеркаванняў нейкі дзядзька ў фуфайцы падставіў да помніка драбіну, узняўся па ёй і адбіў тую недарэчную Ц!

## Гісторыя трэцяя. Злодзеі.

Дзве надта сур'ёзныя жанчыны (пэўна, настаўніцы) папрасілі ў кафетэрыі мінеральнай вады. Прадаўшчыца адкаркавала бутэльку і разліла вадкасць па шклянках. Адна з жанчын крыху сербанула са сваёй шклянкі, скрывілася і кажа:

- Ой, ну зусім газу няма!

Другая тут жа ахвотна яе падтрымала:

- Крадуць! Ну не паверыце, літаральна ўсё крадуць..!

## Гісторыя чацвёртая. Экзамен.

Гэта была мая першая сесія. Першая ў якасці выкладчыка медыцынскага універсітэта. І я прымаў свой першы экзамен. Было і цікава, і разам з тым крыху хвалююча…

А падзеі разгортваліся па класічнай схеме: зайшла першая пяцёрка студэнтаў, кожны выцягнуў білет, пачалі рыхтавацца. Я час ад часу праходжуся па аўдыторыі, назіраючы, каб не спісвалі. Але, здаецца, ніхто і ў думках гэтага не трымае.

І вось надыходзіць час адказу. Першай на “лобнае месца” ідзе высокая, прыгожая дзяўчына з прывабнай усмешкай. Добры пачатак. Нават захацелася падаць ёй крэсла. Як раптам крокі за тры ад мяне ў дзяўчыны з-пад спадніцы высыпаецца стос “бомбаў”, якія густа пакрываюць падлогу. Аўдыторыя знямела, я, перагнуўшыся цераз стол, здзіўлена гляджу на дробна спісаныя аркушы, а студэнтка… Студэнтка ўсё з той жа ўсмешкай спакойна сабрала шпаргалкі, зірнула на мяне і лагодным голасам запытала:

- Гэта не Вашы?

Ад нечаканасці і разгубленасці я чыста механічна ляпнуў:

- Не, не мае..!

- Пэўна, нехта згубіў, - канстатавала дзяўчо і, паклаўшы паперы мне на стол, пачала адказваць па білету. Я амаль не чуў яе адказ, унутрана захапляючыся мужнасцю гэтай “крэпасці” на прыгожых нагах.

## Гісторыя пятая. Руская мова.

Даручылі мне выкладаць рускую мову замежным студэнтам. Рослыя, здаровыя хлопцы, здавалася, апроч дзяўчат і музыкі, іх нішто ў гэтым свеце не хвалявала. А ўжо пра мову і казаць не прыходзілася.

- Преподаватель, - пачыналі звычайна яны на ламанай рускай мове , - Наташа (так арабы звалі ўсіх беларускіх дзяўчат) и так нас поймёт. Водка, кушать, секс, деньги. Что ещё надо?

Даводзілася доўга і ўпарта тлумачыць, пераконваць і нават прымушаць вучыцца. Лёгкія тэмы праходзілі на ўра, а цяжкасцей студэнты не пераносілі. Асабліва складаным для іх аказалася спражэнне дзеяслова.

- Зачем? – пачыналі арабы з любімага слова. – Какая разница, какое окончание будет у глагола. Мы всё понимаем, нас все понимают. Не надо этого, преподаватель…

Але пераканаць неяк трэба было. І ў якасці пераканаўчага прыкладу я ўзяў іх жа любімую тэму. Заходжу аднаго дня ў аўдыторыю і расказваю, які выпадак назіраў учора на калідоры галоўнага корпуса.

Сустрэліся на паверсе два арабы. Прывіталіся, і адзін у другога пытаецца:

- Саид, ты свою девушку утром будишь?

- Да, - адказвае Саід, - наверно, буду…

Калі я растлумачыў студэнтам сэнс слоў "будешь – будишь", яны доўга рагаталі, але спражэнне пачалі вучыць…

## Гісторыя шостая. Сырок.

Малыя дзеці чамусьці не надта любяць есці. Прынамсі, тое, што не звязана з салодкім. І мой сын не стаў выключэннем. Кожнае кармленне для жонкі было

падобным на вайну. Малы круціўся, енчыў, ледзьве не плакаў.

І вось неяк аднаго разу давялося мне карміць Арцёма вячэрай. Жонка дзесьці затрымлівалася, і я запытаў хлопца:

- Вячэраць што будзеш?

На пытанне той адказаў таксама пытаннем:

- А што ёсць?

Я пачаў пералічваць кашы, сасіскі, пяльмені ... Але яму ўсё не падыходзіла. Урэшце, добра раззлаваўшыся, я накрычаў на малога, адкрыў халадзільнік і дастаў адтуль шакаладны сырок.

- Каб з’еў увесь сырок, - строга загадаў яму і выйшаў. Малы, спалоханы такой жорсткасцю, ціхенька сеў і пачаў есці. Праз нейкі час чую, як нехта скуголіць. Заходжу на кухню і бачу: Арцём з’еў палову сырка і горка плача над другой. Нічога не разумею. Каб сырок быў такі нясмачны.

- Хіба не смачна? – пытаюся ў сына.

- Не! – адказвае.

Тады вырашаю пакаштаваць сам. Адкусваю кавалак, пачынаю жаваць і… адчуваю непрыемны смак дражджэй. Гляжу на абёртку. Так і ёсць – дрожджы, якія па падабенству ўпакоўкі прыняў я за шакаладны сырок. Але ж палову з’еў.. Што ж, напаіў малога вадой і адправіў спаць.

**P.S.** Добра, што жонка не бачыла. Хаця, і шкоды ж ніякой!

## МІСТЫКА
(настальгічныя ўспаміны)

*Напэўна, кожнаму чалавеку ўласцівы настальгічныя ўспаміны аб мінулым. Як вядома, раней і снег быў бялейшы, і цукар саладзейшы. І любіць старэйшае пакаленне паўспамінаць: “А вось пры Брэжневу было, а пры Андропаву…”. Вось і мне захацелася прыгадаць тое-сёе з часоў Брэжнева ды Андропава.*

Вучыўся я тады, а быў гэта 1982 год, на філалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. За плячыма меў ужо два курсы навучання, таму мог лічыць сябе сталым, дасведчаным студэнтам. Як і большасць маіх сакурснікаў, паспеў паспытаць сябе ў вучобе, здаўшы паспяхова ажно чатыры сесіі, і ў грамадскім жыцці, сумленна плоцячы камсамольскія і прафсаюзныя складкі. Прыдбаў за гэты час і карыснае захапленне: для ўласнай матэрыяльнай падтрымкі пісаў розныя артыкулы ў газеты, для душы – вершы, гумарэскі, пародыі. Той, хто знаёмы з жыццём філалагічных факультэтаў, ведае: у гэтым творчым асяроддзі пішуць нават сцены. І таму няма нічога дзіўнага, што кожны сапраўдны філолаг хоць раз, ды спрабаваў што-небудзь накрэмзаць…

…Сядзім мы неяк з маім аднагрупнікам Юрам Камягіным (на той час ужо сталым паэтам, бо два яго вершы пабачылі свет у дзяржаўных выданнях) у інтэрнаце, п’ем таннае віно і вядзем такую вось гаворку: час, самы час выходзіць на шырокі прасцяг. І народ працоўны за сабой выводзіць. Таму неяк сама сабой і ўзнікла думка аб часопісе. Ну, сапраўды, а чаму б ні выдаваць свой уласны часопіс? У афіцыйныя моладзі з правінцыі асабліва не прабіцца, а вось калі ёсць свой… Ідэя падалася нам знакамітай, і цяжкасцей ніякіх не

прадбачылася. Тым больш, што ў мяне на той час была машынка для друкавання. Сказана – зроблена! Для першага нумара ўзялі вершы, замалёўкі і апавяданні сваіх сяброў і знаёмых. Тэматыка твораў была вельмі разнастайная: ад палітызаваных публіцыстычных артыкулаў да эратычных вершаў (што б ні казалі, а секс у краіне быў). Моўныя абмежаванні рашуча адкінулі. У часопісе прысутнічала і расійская, і беларуская, і польская мовы. Увесь матэрыял мы размясцілі па рубрыках:

“ІНТЭЛЕКТУАЛЫ” – мастацкая філасофія;

“НАШЫ НЕЧАКАНАСЦІ” – прэзентацыя новых аўтараў;

“АСЯДЛАЎШЫ ПЕГАСА” – пародыі, гумар;

“ЗАЎСЁДЫ ВАШ…” – размовы ад музыкі да інтымнага жыцця;

“З АРХІВУ” – дзіцячыя і юнацкія творы нашых аўтараў;

“АСАРЦІ” – творы рознага жынра і тэматыкі;

“НЕЗНАЁМЫЯ ЗНАЁМЫЯ” – “адкрыццё” забытых аўтараў.

Такім чынам назбіралася 15 друкаваных аркушаў. Паўстала пытанне аб назве часопіса. Чаго толькі ні прыходзіла ў затлумленыя навукай галовы: КРОК, КУЛЯ, АПЛЯВУХА, ГУЗ, ВЕТРАЗЬ… Але ўсё было не тое. Нечага не хапала ў гэтых назвах. Дапамог выпадак. Адзін знаёмы неяк на калідоры расказаў пра новую шведскую брытву, роўнай па якасці якой у свеце няма. А каштуе гэтая рэч столькі, што набыць простаму смяротнаму яе – справа нерэальная. Пэўна, і назвали таму брытву “Містыка”.

Мы адразу ж зразумелі: наша назва! Па-першае, наклад часопіса шэсць паасобнікаў, і атрымаць яго ва ўласнасць для многіх таксама стане справай нерэальнай. Па-другое, і жыццё, пра якое мы пішам, таксама нагадвае

нешта містычнае. Вось так часопіс і атрымаў сваю назву – “МІСТЫКА”.

Наступнай праблемай было пытанне легалізацыі. Ці адкрываць свае імёны шырокай аўдыторыі, ці сціпла пайсці па слядах нашых старэйшых пісьменнікаў, прыкрыўшыся псеўданімамі? Дзесьці падсвядома мы дапускалі, што наша справа можа далёка не ўсім з кіраўніцтва спадабацца. Аднак верылася ў лепшае, тым больш, што асабліва ў палітыку мы не лезлі. Хто ж мог падумаць, што сам факт з’яўлення самвыдату – ужо палітыка. Ну а нумар быў больш чым лагодны, так нам здавалася. І мы вырашылі, што краіна павінна ведаць сваіх герояў, а таму сумленна падпісаліся. Патрыятычна выхаваныя, вокладку часопіса зрабілі аднолькавай па колеры з савецкім сцягам, аздобіўшы яе змеепадобнымі літарамі “МІСТЫКА”. Пасля чаго распаўсюдзілі часопіс па курсах і факультэтах.

Можаце ўявіць, з якім нецярпеннем чакалі мы водгукаў! І яны не прымусілі сябе чакаць. Ад тэмпераментна-ўзнёслых “Малайцы, я вас кахаю!”, да змрочна-папераджальных “Няма чым заняцца? Хутка вас зоймуць у іншым месцы...”. Сустракаліся, дарэчы, і сур’ёзныя, аналітычныя разважанні, і дэталёвы разбор надрукаванага. Ну а больш за ўсё, як гэта звычайна і бывае, было парад і прапаноў. Хутка пачалі падыходзіць і студэнты са сваімі творамі і жаданнем славы. Пра часопіс загаварылі. Таму не дзіўна, што праз некалькі дзён нас з Камягіным выклікалі ў дэканат і папрасілі расказаць пра часопіс. Мы, зразумела, не прымусілі сябе доўга ўпрошваць і намалявалі цудоўную карціну ўсёй той карысці, якую прынясе часопіс факультэту. Не паверыце, але кіраўніцтва не ўбачыла ў нашай ініцыятыве ніякай крамолы і дало згоду на далейшы выпуск часопіса. Больш таго, нават паабяцала пасадзейнічаць у выхадзе на

універсітэцкі прынтэр. Але з умовай, што часопіс павінен стаць літаратурным дадаткам да папулярнай ва універсітэце факультэцкай насценгазеты “Філолаг”, якой вельмі ганарыўся наш дэкан. Безумоўна, мы згадзіліся. Праўда, адзін з нашых больш сталых сяброў Янка Трацяк разважліва папярэдзіў, што дабром усё гэта не скончыцца, але нас ужо несла на крылах перамогі.

Дэкан уласнымі рукамі забіў цвічок пад газетай “Філолаг”, урачыста абвясціўшы, што тут і будзе вісець часопіс. Кранутыя і натхнёныя такім клопатам, мы з Юрам кінуліся рабіць другі нумар. Матэрыялаў назбіралася так багата, што за другой выйшла “Містыка-3”! Больш таго, вакол часопіса згуртаваліся найбольш актыўныя студэнты, якія добра засвоілі курс “Гісторыі КПСС” і зразумелі, што сіла толькі ў арганізацыі. Так нарадзілася ідэя стварыць студэнцкую суполку ў супрацьвагу УЛКСМ. І неўзабаве паўстаў клуб “Катарсіс” з глабальнымі, рэвалюцыйнымі планамі. Як і належыць сапраўдным падпольшчыкам, сабраліся патаемна на ўстановачны сход, выпрацавалі Статут і Праграму, абралі Раду клуба. Закруціўшы ўсё гэта ў прыгожую паперку маладзёжнага клуба па інтарэсах і паказаўшы гаспадарам інтэрната, мы нават здолелі выбіць для пасяджэнняў Ленінскую залу. Паралельна поўным ходам рыхтаваўся чацвёрты нумар “Містыкі”. Жыццё здавалася лёгкім і бязвоблачным…

А тым часам хмары збіраліся над нашымі бязвіннымі галовамі. Аднаго дня залятае ў аўдыторыю сакратарка з дэканата і абвяшчае, што Варанец і Камягін запрашаюцца ў абавязковым парадку на пасяджэнне універсітэцкага літаратурнага аб’яднання “Наднёманскія галасы”. Такога гонару не зведаў яшчэ ніхто, і адмаўляць запрашэнню не выпадала. Крышку насцярожыла, што

прыйсці мы павінны ў кабінет, дзе засядае рэктарат, але, можа, гэта ўсё дзеля нас...

У вызначаны дзень і час урачыста ўвайшлі ў залу, у якой ..., акрамя афіцыйна прызнаных маладых паэтаў, прысутнічала і найвышэйшае кіраўніцтва універсітэта. У мяне нават з'явілася думка, што і яны сталі пісаць вершы. Але я хутка адагнаў яе як недарэчную: такія асобы маглі быць выключна крытыкамі! А на стале тым часам сарамліва чырванеў першы нумар "Містыкі". Мы селі, як і належыць сціплым асобам, у канцы доўгага стала і пачалі чакаць. Першай ударыла цяжкая артылерыя. Вядомы прафесар у галіне марксісцка-ленінскай філасофіі з выразам жаху на твары паведаміў прысутным, што ён, багата паездзіўшы па свеце, лічыў для сябе немагчымым удо чаму-небудзь здзівіцца. Больш таго, ён і сам ліберал і абаронца моладзі, які з разуменне ставіцца да цяперашніх навацый у палітыцы і жыцці. Ён нават з цікавасцю пазнаёміўся з прынцыпамі новага заходняга руху "Хрыстос і сацыялізм". Але каб нашы с а в е ц к і я студэнты, вывучыўшы курсы філасофіі і палітэканоміі, абралі за назву для часопіса "Містыку"? Гэта не змяшчалася ў немалой галаве прафесара. І павінна быць сорамна ўсім выкладчыкам, якія не да канца растлумачылі маладым людзям сутнасць сацыялістычнага светапогляду. Некаторыя з выкладчыкаў прыкметна пачырванелі. А што яны сабе думалі, толькі двойкі ставіць?

Пасля слова далі дацэнту, кіраўніку "Наднёманскіх галасоў" і па сумяшчальніцтву местачковаму паэту. Ён доўга гартаў часопіс, быццам першы раз яго бачыў, разгублена азіраўся па баках і, цяжка ўздыхнуўшы, распачаў свой выступ.

- Ну, канешне, часопіс выйшаў, распаўсюдзіўся і вось. А што ў тым часопісе? Нічога, зусім нічога...( тут мы моўчкі не пагадзіліся: там былі вершы, апавяданні і г.д.). І

ўсё такое слабое. Вось Трацяк пра туалет піша на вакзале ў Ашмянах. Гэта не літаратура. Натуралізм нейкі. А верш Гецмана “Снег”? Ён піша, што малады чалавек вар’яцее ад суму і ледзьве не б’ецца галавой аб сцену. Ці так бывае? Твор такі нікчэмны, што нават пародыя Варанца на яго і то лепей (але пародыя і павінна быць не горшай), хаця і таксама не добрая.

Мастак слова яшчэ доўга і нудна праходзіўся па матэрыялах часопіса, старанна, але без энтузіязму вышукваючы моманты адыходу ад святая святых – прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму.

Затым слова далі народу. На яго ролю былі абраны маладыя паэты з розных факультэтаў. Але большасць з іх часопіса не чытала, а выступаць у класічным жанры “Я часопіса не чытаў, але хачу гучна абурыцца…” ім не надта і хацелася. Таму паэты або мямлілі нешта невыразнае, або проста маўчалі.

І тады кіраўніцтва універсітэта вырашыла, што час аб’явіць нам свой прысуд:

1. Выхад часопіса спыніць з-за нізкай якасці змешчаных там твораў.

2. В. Варанца і Ю. Камягіна ўвесці ў склад універсітэцкага літаб’яднання “Наднёманскія галасы”. На працягу двух дзён вышэй названых асоб сфатаграфаваць, здымкі змясціць на стэндзе.

3. Камітэту камсамола, прафкому студэнтаў, парткому універсітэта ўзмацніць выхаваўчую і ідэалагічную работу з моладдзю.

Мы выйшлі ў калідор і з палёгкай выдыхнулі. Не расстралялі і, што яшчэ больш важна, не выгналі з універсітэта. А маглі… Маладыя паэты выходзілі адзін за адным, некаторыя ціхенька ціснулі нам рукі, шапочучы:

- Віншую. Абышлося…

З дзвярэй выйшаў кіраўнік паэтаў, пастаяў каля нас крыху моўчкі і выціснуў з сябе:

- О як! А вамі цікавіліся адтуль! – і ён кіўнуў у бок помніка Я. Купалу. Але мы здагадаліся, што не з таго свету, а значна бліжэй – з Камітэта Глыбокага Бурэння.

Раніцаю насупнага дня тэрмінова склікалі рэдакцыю і абмалявалі ім усю карціну падзей. Паўстала пытанне, што рабіць далей. Першай выказалася Ірына Швяцова:

- Вас, хлопцы, віншую, што так добра ўсё скончылася, але з Андропавым я жартаваць ахвоты вялікай не маю!

Пасля доўгіх спрэчак і разваг большасць, тым не менш, прагаласавала за выхад у свет чацвёртага нумара “Містыкі” і часовым прыпыненні дзейнасці клуба і часопіса. Трэба пераседзець навалу. З гэтым і пайшлі на заняткі. Літаральна праз гадзіну ў аўдыторыю ўвайшла ўжо знаёмая сакратарка і нагадала, што мяне і Камягіна чакае ў бібліятэцы фатограф. Прыйшлося цягнуцца ў бібліятэку. Пакуль ішлі калідорам, да нас падбегла нейкае жвавенькае дзяўчо і жыццярадасна прашчабятала:

- Ці не вы Варанец і Камягін?

Мы адразу адчулі сваю ўзрастаючую папулярнасць. Падрыхтаваліся даць афтографы.

- Вас прасіў а 14-ай гадзіне зайсці да сябе сакратар партыйнай арганізацыі універсітэта.

Вось і партыя родная пра нас успомніла.

Заходзім у партком. Сакратар пільна і працягла агледзеў нас, пасля чаго запрасіў сесці і сунуў у рукі нейкі часопіс з артыкулам пра панкаў. Нічога не разумеючы, мы, тым не менш, добрасумленна азнаёміліся са зместам. Задаволены парторг пачаў нам нудна расказваць пра вялікую ролю педагога ў савецкім грамадстве. Мы згодна схілілі галовы. Тады гутарка перакінулася на нас. Сакратар з раптоўным імпэтам засведчыў, што сёння на

факультэце і ва універсітэце нас ведаюць усе. Больш таго, малодшыя курсы арыентуюцца на нас, бяруць ва ўсім прыклад. Ну а мы?

- Гляньце на сябе, - прапанавала нам партыя.

Мы глянулі. Усё ў норме, у духу часу. Выцертыя, лінялыя джынсы, крыху падрапаныя скураныя пінжакі. На мне чырвоны гольф, на Камягіну майка з надпісам на англійская мове "Каналізацыйныя сістэмы Лос-Анжаліса". Валасы, як і належыць, да плеч.

Але ў лідэра камуністаў была, напэўна, іншая думка.

- Гэта не выгляд! Вы ж панкі нейкія, а не камсамольцы! Трэба пастрыгчыся, апрануць касцюмы, стаць людзьмі!

Мы зноў пагадзіліся, і ўзрадаваны партыец адпусціў нас на волю. Ужо на калідоры высветлілася, што касцюмаў мы не маем, а партыя матэрыяльна нас не падтрымала. А таму і віны нашай няма!

Пасля такой колькасці сустрэч на самым высокім узроўні, на запрашэнне сакратара камітэта камсамола мы нават не звярнулі ўвагі. Тым больш, што ў яго кабінеце дактары бралі мазкі ў байцоў будатрадаў.

А праз дзень выйшаў чацвёрты Навагодні нумар часопіса. Пасля чаго "Містыка" загадала доўга жыць! Бо нявінныя гульні маглі хутка перайсці ў сумную рэальнасць..

З пазіцыі сённяшняга дня разумееш, што не змест хвалявў тагачасных чыноўнікаў. Якраз ім наш часопіс быў нецікавы. Ён не падабаўся Сістэме, бо выходзіў з-пад татальнага кантроля.

З гадамі непрыемнасці забыліся, засталіся толькі добрыя настальгічныя ўспаміны. І вялікая колькасць матэрыялаў, якія я так і не паспеў надрукаваць у часопісе. Яны і сёння ляжаць у маім архіве. А большасць сяброў "Містыкі" і зараз штотыдня праводзяць свае пасяджэнні ў... гродзенскай лазні!

# СБА
(апавяданне)

Пра сваю нацыянальную прыналежнасць я даведаўся адразу ж, як выйшаў на перон невялікага карэльскага мястэчка Лоўхі. Мясцовыя жыхары з радасцю тут жа загаласілі:

- Бульбашы прыехалі! Бульбашы!

Як доказ іх празорлівасці, з вагона вылецелі некалькі мяхоў з бульбай. За бульбай пасыпаліся байцы студэнцкага будаўнічага атрада “Альтаір”. Так пачалася наша карэльская эпапея.

У якасці даха над галавой нам быў выдзелены доўгі барак з пеналападобнымі пакойчыкамі на чатыры ложкі. Фанерныя перагародкі паміж пакоямі былі такімі танюткімі, што мы спакойна перагаворваліся з любым адсекам, не злазячы з ложка. А за акном была тайга, сопкі, белыя ночы. Распакаваўшы рэчы, я хуценька сеў за стол, раскрыў тоўсты сшытак і з любоўю вывеў: “Дзённік студэнцкага будаўнічага атрада “Альтаір”. Вёў Яначкін Вальдэмар Кузьміч”.

4 ліпеня. Наш першы працоўны дзень. На лінейцы камандзір павіншаваў усіх з пачаткам работы і размеркаваў па аб’ектах. Я не ўмею нічога. Пра што сумленна і заявіў. Адправілі на чыгуначную станцыю з яшчэ трыма такімі ж няўмекамі. А вось за сумленнасць і шчырасць прызнання ў прафесійнай бездапаможнасці мяне прызначылі брыгадзірам. Майстар на чыгунцы нам хуценька растлумачыў, як трэба мяняць шпалы. Выцягваеш кастылі са шпалы, капаеш ля тарца ровік, выцягваеш шпалу, чысціш ровік, заганяеш новую шпалу, забіваеш кастылі. Усё проста. І розуму вялікага не трэба. За смену трэба змяніць кожнаму па 7 шпал. Дробязь.

Не, гэта так падалося, што дробязь. Пасля змены ледзьве прыцягнуўся ў пакойчык, сабраў апошнія сілы, каб напісаць гэтыя радкі і адчуў, што выключаюся…

8 ліпеня. Шпалы ўжо “шчоўкаем”, што семкі. Побач працуе брыгада мясцовых. Ну і куды ім да нас… Слабакі. Раптам у абед усе навокал пакідалі працу, схапілі вёдры, бідоны і некуды пабеглі. Мы думалі, што пажар. Хутка высветлілася, што прыгналі на станцыю цыстэрну з віном. А ў дробны посуд не нальеш. Нашы суседзі хутка вярнуліся з двума поўнымі вёдрамі, селі прама на рэйках і пачалі частавацца. Запрашалі і нас, але мы на працы не п’ем. Праз гадзіну суседзі ўжо спалі, як суслікі. Прыйшоў майстар, доўга мацярыўся. Падбег да мяне і заенчыў, што праз паўгадзіны прыбудзе цягнік з Сочы. Трэба адцягнуць п’янтосаў убок. Ага, а ў нас жа план па шпалах. Майстар тут жа аформіў нам нарад на транспарціроўку шпал. Склалі мы небарак на цялежкі і адвезлі ў цянёк.

9 ліпеня. Субота! Працавалі толькі да абеду, потым лазня, святочны абед і дыскатэка. Я хваляваўся, бо ніколі не быў з чужымі жанчынамі (як, зрэшты, і са сваімі). Пэўна, я быў не адзін такі, бо за абедам кожнаму байцу СБА выдалі бутэлечку гарэлкі аб’ёмам у 250 грамаў з дзіўнай назвай “чакушка”. Пасля “чакушкі” мне стала неяк спакайней.

Мястэчковы клуб крыху нагадваў сарай майго дзеда, толькі пасярэдзіне стаяла калона з выявай пузатага купідона. Дзед, хоць і быў заможным гаспадаром, але купідона дазволіць, відаць, сабе не мог. Навокал стаялі паўзмрок і неверагодная колькасць дзяўчат. Яны былі розныя, але мяне хіліла да сна. Загучала павольна-эратычная музыка. Першым ірвануў у дзявочы натоўп вопытны лавелас, а па-нашаму бабнік, Яська Трацяк. Ужо праз хвіліну адтуль пачуўся смех, віск, нейкі шоргат. Я ўздыхнуў, абвёў вачыма залу і… замёр. Яна глядзела на

мяне, не міргаючы, як алігатар на сусліка. Я адчуў нейкі непрывычны страх у нізе жывата. Праз момант яна кіўнула мне галавой, і я, не ведаючы, чаму, пайшоў да яе.

- Вы мяне запрашаеце? – з усмешкай анаконды запытала яна мяне і тут жа пацягнула ў сярэдзіну залы танцаваць. – Мяне завуць Зіна. А вас?

- Нас завуць Валік, - механічна адказаў я і адчуў прыемнасць яе акруглых сцёгнаў.

- Валік, -строга сказала Зіна, - даму пры людзях трэба трымаць вышэй…

Я паклаў рукі ёй на плечы, разумеючы, што і гэта не ідэальна…

Мы гулялі з Зінай па начных Лоўхах. Я расказваў ёй пра сваю вучобу, яна распытвала мяне пра ўзрост, маіх бацькоў, сваякоў і іх пасады. Але нешта ў маёй анкеце было не дапрацавана, бо калі мы дабрылі да яе дома, Зіна моцна пацiснула мне руку і сказала, што гэты вечар назаўсёды застанецца ў яе сэрцы, але мы вельмі розныя, каб сур'ёзна сябраваць.

19 ліпеня. Прачнуліся мы не ад традыцыйнага крыку ненавіснага дзяжурнага:

- Атрад! Пад'ём!

Крык быў, але гэтым разам такі жахлівы і працяглы, што нават самыя страшэнныя спуны і то паўскоквалі. На калідоры стаяў і енчыў ва ўвесь голас Валік Спевак. Яго галава і твар былі запэцканы нечым чорным. Гэта была смала. І гэта было зразумела… Але пачну з прадгісторыі.

Валік – чалавек-легенда. Працаваць фізічна ці разумова ён не ўмеў, не хацеў і не збіраўся. У атрад яго ўпіхнуў родны дзядзька, які працаваў у нашым універсітэце прафесарам. Днямі адправілі Валіка на будоўлю дома. Трэба было ставіць апалубку. Спеваку майстар паказаў, як абухам сякеры заганяць колышкі ў зямлю, каб падпіралі апалубку. Валік узяў сякеру,

прыставіў колышак, размахнуўся сякерай і... з маху ляснуў сябе лязом у лоб. Затым нешта піскнуў і паваліўся на бок. Паклалі яго на пару дзён у лазарэт і вырашылі нічога колючага і рэжучага болей у рукі не даваць. Калі Валік канчаткова ачуняў, камандзір даў яму самае простае і бяспечнае заданне: а пятай гадзіне раніцы пайсці на будоўлю, распаліць "кававарку"(печку для смалы) і чакаць, пакуль прыйдуць хлопцы смаліць дах дома. І ніякай самадзейнасці. Валік усё выканаў дакладна. І ўстаў, і распаліў, і пасядзеў, гледзячы на полымя агню. Час ішоў, і неўзабаве яго зацікавіла нейкае бульканне ў "кававарцы". Спевак падышоў бліжэй, прыслухаўся, потым падставіў пустую скрыню і ўбачыў зверху дзверкі печкі. Не ўтрымаўшыся, Валік адкрыў гэтыя дзверкі і сунуў туды нос. У печца кіпела смала. Якраз у гэты момант яна чарговым разам булькнула, запырскаўшы Валікаву галаву буйнымі кроплямі. "Смалавар" дзіка зароў і кінуўся у інтэрнат...

Пакуль атрадны ўрач аказваў Валіку першую дапамогу, камандзір схадзіў на вакзал, купіў білет на радзіму – і ўжо праз ноч Валік ехаў дахаты ад граха падалей...

24 ліпеня. Чорная нядзеля. Камандзір з раніцы аб'явіў, што сёння да абеда будзе суботнік. Трэба тэрмінова выгрузіць кавуны з вагонаў на станцыі. Пасля работы кожны зможа ўзяць па тры кавуны ў якасці ўзнагароды. Так усё і сталася. Пасля абеду мы сядзелі утрох у сваім пакойчыку. На падлозе ляжалі 10 вялізных ягад (Пецька Макей неяк умудрыўся прыхапіць чацвёрты). Пачынаўся вялікі жор!

Праз гадзіну ад кавуноў засталіся толькі зялёныя "шапачкі". Стомленыя і задаволеныя, мы ляжалі на ложках, млосна папыхваючы. Было хораша. На калідоры пачуўся крык дзяжурнага:

- Яначкін! На выхад. Да цябе дзяўчына!

Я ўспомніў, што дамаўляўся са сваёй новай знаёмай Верай паблукаць сёння па ўскраінах (хто ж ведаў пра той суботнік?) мястэчка. Мабілізаваўшы апошнія сілы, я хуценька пераапрануўся і пабег на спатканне.

Вечар быў прыгожы, цёплы. Вера тулілася да мяне, нешта расказвала, а мне было не да гэтага. Прыбіральня – вось пра што мне марылася. Але, наколькі я ведаў, у Лоухах яна была толькі на чыгуначным вакзале. Да вакзала топаць добрых паўгадзіны. Божухны, і чаго я папёрся з любімага барака, дзе такая мілая сэрцу прыбіральня!

- Ты мяне не слухаеш? – надзьмула вусны Вера.
- Канешне слухаю, - хуценька запярэчыў я.
- Тады давай крышку пасядзім вунь на той лаўцы, - сказала дзяўчына і жвавенька ўселася на яе. Я сеў побач і зразумеў, што вось-вось надыдзе час маёй ганьбы.
- Вера! – з імпэтам пачаў я. – Я зусім забыўся. Сёння ў нас страшная праверка з Цэнтра. Камандзір сказаў, каго не будзе а 10-ай гадзіне, выганіць з атрада і з універа. Даруй, але мне трэба ляцець.

Чмокнуўшы разгубленую дзяўчыну ў шчочку, я маланкай кінуўся ў нейкі хмызняк. Гэтым вечарам я ўпершыню зразумеў, што шчасце бывае рознае…

<u>6 жніўня</u>. Святочная субота. Сёння адмянілі працу. У нашы Лоухі з’ехаліся ўсе навакольныя СБА на свята будаўнікоў. З гэтае прычыны правялі розныя спаборніцтвы ў спорце, прафесійным майстэрстве, мастацкай самадзейнасці. Са мной была асобная гутарка. Камандзір вытрымаў паўзу і сказаў, што я буду абараняць гонар атрада ў конкурсе “Самы мужыкасты мужык”. Я крыху пачырванеў ад такой прапановы і сціпла заўважыў,

што ў нашым атрадзе ёсць і памужыкасцей людзі. Я сам бачыў у лазні.

Камандзір чагосьці раззлаваўся, абазваў мяне дурнем і зазначыў, што ніхто нашы “мужыцкасці” там мераць не будзе. Гэта спаборніцтвы ў галіне спорта, самадзейнасці, рыторыкі. І ўсё. І адправіў мяне рыхтавацца. Трэба было напісаць прамову з пахвальбой пра сябе.

Вялікая зала мясцовага Палаца культуры ламілася ад народу. На сцэне мы, шасцёра прэтэндэнтаў на ганаровае званне “Мужыкасты мужык”. Вядучы аб’яўляе пачатак спаборніцтваў. Ах, як толькі з нас не здзекаваліся. Мы скакалі ў мяхах з-пад бульбы і біліся скручанымі коўдрамі, складалі бурымэ і прызнаваліся ў каханні дзяўчатам, чысцілі бульбу і аджымаліся ад падлогі. Зала равела ад захаплення. Кожны хварэў за свайго. Там-сям пачыналіся лакальныя бойкі. Нарэшце ўсё закончылася. Нечакана для сябе я заняў другое месца. Лоухі ўзвылі ад радасці, бо ўжо лічылі нашых байцоў сваімі землякамі.

Ці трэба казаць, што на начной дыскатэцы я быў у цэнтры жаночай увагі. Столькі прызнанняў і прапаноў я не бачыў нават ва ўсіх прачытаных мною кніжках. Я адчуў сябе супермэнам…

Мы ішлі з Кацяй, узяўшыся за рукі, пад начным і такім нязвыклым для ночы белавата-шэрым небам Карэліі.

- …А как будет по-вашему звёздочка?

- Зорачка.

- Красиво. А любовь?

- Каханне.

- Интересно как… А прочитай мне какое-нибудь красивое стихотворение на белорусском языке.

Што ж табе такое прачытаць? Сорамна прызнацца, але апроч школьнай праграмы я і ўспомніць нічога не мог. Ці, дакладней, нічога і не ведаў. А якая ў нас школьная

праграма. .. І раптам як прасвятленне. Ведаю. Вучыў на адну вечарыну.

- Ну слухай.

Зорка Вянера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла…
ПомнішЮ калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла…

Чым далей я чытаў, тым рамантычней станавіўся твар Каці і тым больш я адчуваў сябе Казановай. Каця падняла на мяне свае вялізныя вочы і ціхенька сказала:

- Пайшлі да мяне…

7 жніўня. Нядзеля. Яно сталася! Цяпер я дакладна ведаю, што я самы мужыкасты мужык. І не другі. Я першы!

15 жніўня. Сумны панядзелак. Наш атрад ад’язджае ў Беларусь. Вось усё і скончылася. Праводзілі нас усе Лоухаў. С песнямі, слязьмі, пацалункамі і абяцаннямі. Ды нічога, мы сюды яшчэ вернемся. Пройдзе ўсяго год – і мы абавязкова вернемся! Сюды нельга не вярнуцца! Гэта кажу вам я, Яначкін Казанова!

**Змест**

